# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 8 кастрычніка 1994 года | № 107 (10807) | Цана 30 руб.

■ Парламент: дзень за днём

## Выканаўчая ўлада: першы этап рэфармавання

Цяперашняя сесія Вярхоўнага Савета Беларусі — ключавая. Яе вынікам павінна стаць распрацоўка паўнацэннага механізма рэалізацыі новай беларускай Канстытуцыі. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 6 кастрычніка ў парламенце. Кіраўнік дзяржавы прадставіў на разгляд дэпутатаў змяненні і дапаўненні ў Закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы. Яны прадугледжваюць першы этап рэфармавання мясцовай выканаўчай улады. Гэта звязана, перш за ўсё, з прынцыпамі раздзялення ўлад, якія замацаваны ў Канстытуцыі, і ператтварэннем парламенцкай рэспублікі ў прэзідэнцкую. На думку Прэзідэнта, выканаўчая ўлада, як самастойная галіна дзяржаўнай улады, павінна ўключаць вертыкальную структуру, што складаецца з выканаўчых і распарадчых органаў як у цэнтры, так і на месцах.

Згодна з унесенымі Прэзідэнтам змяненнямі, прапануецца скасаваць Саветы так званага пярвічнага ўзроўню — сельскія, пасялковыя, гарадскія раённага падпарадкавання і раённыя ў гарадах, на месцы якіх (за выключэннем двух апошніх) будзе створана мясцовая адміністрацыя. Акрамя гэтага, Прэзідэнт прапанаваў размежаваць кампетэнцыі прадстаўнічых і выканаўчых органаў на месцах, у сувязі з чым будуць «раз'яднаны» пасады старшыні Савета і старшыні выканаўчага камітэта.

Затым па ўнесеных дакументах разгарнулася бурная дыскусія. З прапановай праводзіць выбары кіраўнікоў гарадоў і раёнаў усенародна выступіў дэпутат Алег Трусаў. Цікава, што іншыя парламентарыі, якія бралі слова па гэтай праблеме, як правіла, пачыналі так: «У прынцыпе прапанова Алега Анатольевіча Трусава правільная. Аднак...» Адны дэпутаты лічылі, што народ яшчэ не гатовы да выбрання мэра, скажам, таго ж Мінска, хоць Прэзідэнта рэспублікі выбіралі ўсенародна. Другія гаварылі аб тым, што цяпер некаторыя раёны маюць вельмі малы бюджэт і не могуць праводзіць самастойную палітыку. Трэція меркавалі, што старшыня Савета — асоба, па сутнасці, бутафорская і таму, маўляў, выбары яе ўсенародна дыскрэдытуюць ідэю... Словам, прапанова дэпутата Трусава належнай падтрымкі не знайшла.

Не знайшла разумення і прапанова дэпутата Аляксандра Шута выбіраць усенародна старшыню выканкома. За яе выказалася толькі 60 дэпутатаў.

У канчатковым выніку парламентарыі пагадзіліся з прапановай Прэзідэнта. Цяпер старшыня Савета будзе выбірацца на сесіі з ліку дэпутатаў. А кандыдатура старшыні выканкома гэтага ж Савета будзе прапаноўвацца Прэзідэнтам. Калі Савет адхіліць кандыдатуру першага прэтэндэнта, то Прэзідэнт мае права прапанаваць іншую, але ўжо без узгаднення з дэпутатамі. Словам, як заўважыў парламентарый Леанід Баршчэўскі, «з сённяшняга дня Савецкая ўлада ў нас ліквідуецца, хоць, можа, і не самым лепшым чынам».

Сам Прэзідэнт ацаніў прыняцце закона як канец безуладдзя. Паводле яго слоў, грамадства адышло ад бездані, і цяпер Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да дэпутатаў з просьбай дапамагчы зрабіць наступны крок — сфарміраваць прэзідэнцкую вертыкаль. Толькі пасля гэтага можна будзе гаварыць аб тым, што ў Беларусі пасля перыяду безуладдзя настане вяртанне ўлады, кіраванне ёю.

Затым дэпутаты прынялі Закон аб Нацыянальным архіўным фондзе Беларусі і Закон аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Па ўсім адчувалася, што дэпутаты задаволены праведзенай работай. І таму было вырашана зрабіць перапынак у пленарных пасяджэннях на дзесяць дзён.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Нарада аграрнікаў

## Час патрабуе адзінства

БАДАЙ кожны працаўнік, падняўшыся раніцой, перш за ўсё ўспамінае свой учарашні дзень. Успамінае дзеля таго, каб як мага дакладней, без учарашніх памылак, спланаваць сённяшні і заўтрашні...

Гэтым, здаецца, кіраваліся і члены рэспубліканскага савета Саюза аграрнікаў, Савета калгасаў, Палітсавета Аграрнай партыі Беларусі і БРК прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, сабраўшыся ў Мінску для таго, каб прааналізаваць вынікі дзейнасці партыі, іншых аграрных структур у час падрыхтоўкі да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, вызначыць свае задачы на бліжэйшую і больш аддаленую перспектыву.

Як вядома, у час падрыхтоўкі да выбараў пералічаныя вышэй арганізацыі выступілі адзіным блокам, вылучыўшы ад Аграрнай партыі свайго кандыдата ў Прэзідэнты. Ім быў А.І.Дубко — старшыня рэспубліканскага савета Саюза аграрнікаў, кіраўнік знакамітай на ўсю рэспубліку гаспадаркі «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Аднак па выніках першага тура галасавання ён не набраў патрэбнай колькасці галасоў і не трапіў у другі.

Чаму? Якія промахі былі дапушчаны камандай кандыдата, усімі зацікаўленымі структурамі? Старшыня Палітсавета Аграрнай партыі С.Г.Шарэцкі, які выступіў перад прысутнымі з дакладам, назваў некалькі прычын. І, бадай, галоўная з іх заключаецца ў тым, што далёка не ва ўсіх раёнах напярэдадні падрыхтоўкі да выбараў былі дзеяздольныя пярвічныя арганізацыі Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў, не гаворачы пра партыйныя.

Дарэчы, Прэзідэнт А.Лукашэнка ішоў да выбаршчыкаў менавіта з тымі ж лозунгамі, што і кандыдаты левага крыла — Вярнуць народу аднятае ў яго ў выніку грабежніцкіх «рэформ», аднавіць эканамічныя сувязі з Расіяй і іншымі рэспублікамі былога Саюза і г.д. Сёння ж, канстатавалася на пасяджэнні, Прэзідэнт адыходзіць ад усіх сваіх перадвыбарных абяцанняў. Цэны на прамысловыя тавары, без якіх вёска не можа развівацца, нястрымна растуць, калгасы і саўгасы, прадаўшы прадукцыю, месяцамі не могуць дачакацца выручкі. А ў выніку з кожным месяцам падае вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі, з кожным годам змяншаюцца зборы збожжа, бульбы, тэхнічных культур, агародніны.

На што спадзявацца ў гэтых умовах рабочаму чалавеку, жыхару горада? Бязладдзе і хаос на руку тым сілам у рэспубліцы, прадстаўнікі якіх маюць свае рахункі ў замежных банках, якія імкнуцца ўсімі спосабамі дагадзіць замежным дарадцам па развалу нашай прамысловасці, калгасаў, Саветаў народных дэпутатаў і г.д. Зразумела, што калі настане час новых выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі, у тых, хто паспеў падграбсці пад сябе мільярды, практычна не будзе арганізаваных супернікаў. Значыць, і аграрнікам пры цяперашнім разбродзе меркаванняў і дзеянняў загадзя можна паднімаць рукі ўгару і весці за сабой 2 мільёны вяскоўцаў.

Але ж ці можна так бясконца каціцца ўніз? Думаецца, настаў час аграрнікам згуртоўваць свае рады. Вядома ж, не так баязліва, як было дагэтуль. Тым больш што Партыя камуністаў Беларусі, мэты і задачы якой дастаткова блізкія Аграрнай партыі (дарэчы, на пасяджэнні прысутнічаў і выступіў сакратар ЦК ПКБ В.М.Новікаў), прапануе пачынаць падрыхтоўку да выбараў у вярхоўны орган улады рэспублікі, стварыўшы свой блок.

Гэта патрэбна таму, што працоўныя горада і вёскі ўжо некалькі гадоў чакаюць такіх рэформ, якія дазволілі б чалавеку працаваць і зарабляць грошы сумленнай працай, а не хадзіць з працягнутай рукой, спадзеючыся на міласць багатых.

На пасяджэнні абмеркавана пытанне аб цэнах на рэалізуемую сельгаспрадукцыю. Даўно наспела задача аб'яднання Саюза аграрнікаў рэспублікі і Савета калгасаў. У выніку створаны камітэт на чале з А.І.Дубко, які павінен выпрацаваць механізм зліцця гэтых дзвюх арганізацый.

На нарадзе прысутнічаў і выступіў перад прысутнымі віцэ-прэм'ер У.Г.Гаркун. У рабоце пасяджэння прымаў удзел міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Беларусі В.С.Лявонаў.

*Іван АБАБУРКА, аглядальнік "Мінскай праўды".*




## ШЛЯХ ДА КАМУНІЗМУ. ПРАЗ ПАРЫЖ

Падзея, якая адбылася ў калгасе «Шлях да камунізму» Клецкага раёна, не трапіла ў разрад экстранавін на палосах газет, тэлеэкранах. Больш таго, яна засталася незаўважанай. Мабыць таму, што арганізатары яе дбалі не пра рэкламу, а пра рабочую будзённасць. Дык вось, у гаспадарцы запушчаны ў эксплуатацыю свой камбікормавы цэх. Кампактны, высокапрадукцыйны. Абсталяванне — французскае.

— Мы тут аб"ядналі намаганні, — расказвае старшыня праўлення У.І.Сандрозд. — Намаганні калгаса, фермераў і зарубежных партнёраў. Гаспадарка прадаставіла пляцоўку, будматэрыялы, разам з фермерамі манціравала будынак, абсталяванне, прадастаўленае Еўрапейскім саюзам. Рознагалоссяў не было. Сёння цэх можа забяспечыць якасным фуражом і калгасныя фермы, і нашых кампаньёнаў. Прадукцыйнасць яго — да тоны збалансаванага па пажыўных рэчывах камбікорму за гадзіну. Прытым электроніка аўтаматычна можа рэгуляваць работу тэхнікі ў любы час сутак.

Нямнога знойдзецца фермераў, якія абзаводзяцца сёння буйным статкам жывёлы. Няма памяшканняў, кармоў, абсталявання. А вось у Клецкім раёне, бадай, першымі ў рэспубліцы свае фермы будуць мець шэсць гаспадароў на чале з Уладзімірам Лобанам і тры браты Аўдзеі. Першым дапамагае фінансамі ў будаўніцтве свінарніка той жа Еўрапейскі саюз, Аўдзеі ж абыходзяцца ўласнымі сіламі і сродкамі. Вырашчанае збожжа на камбікорм будуць перапрацоўваць у цэху.

Прадстаўнікі Еўрапейскага саюза, якія кансультуюць гэтыя праекты, назвалі іх «пілотнымі», г.зн. вядучымі, першымі. Яны ўпэўнены, што падобным супрацоўніцтвам зацікавяцца і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

### НАДВОР"Е

Сёння ўдзень па вобласці чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі дажджы. Тэмпература паветра — 8—13, у Мінску — 11—13 градусаў цяпла, раніцою і ўдзень — невялікі дождж.

## Великолепная семерка

Всего семь человек трудятся в консервном цехе колхоза «Рачковичи» Слуцкого района. Но каждый из них работает, как говорится, за семерых. Богат ассортимент продукции — консервированные помидоры, огурцы, кабачки, щавель. Хорошее подспорье горожанам к зиме. А какое наслаждение выпить морозным зимним днем стакан ароматного березового сока! Его заготавливала колхозная бригада в соседних лесах. 50 тонн пахнущего весенним лесом напитка работники «Рачковичей» уже отправили в торговую сеть.

Сейчас полным ходом идет переработка даров осени. Укладываются в банки аппетитные свекла, капуста, морковь. Из хозяйств района в колхоз поступают яблоки — виноматериал, изготовленный из них, отправляется на минский ликеро-водочный завод «Кристалл». В хранилище закладывают заделы на зиму, чтобы было на чем работать до весны.

— Не останавливая производства, — рассказывает его начальник Николай Жук, — одновременно проводим реконструкцию спиртзавода. Заканчивается строительство цеха ректификации. С окончанием основных работ начнется монтаж брагоректификационных установок, что даст возможность колхозу выпускать фирменную водку. Ее рецепт разработан специалистами предприятия. Предстоит также построить более мощную котельную. Коллектив старается, чтобы все убранное с полей было переработано без потерь.

*Анатолий БАСОВ.*

Залатая восень.

*Фота Міхаіла БУЛАТА.*

■ Салігорскія навіны

## З ЛЮБОЎЮ ДА МАТЭМАТЫКІ

Дзве сястры-настаўніцы з Салігорска адначасова атрымалі паведамленні наступнага зместу: "Вы з"яўляецеся прэтэндэнтам на атрыманне Сорасаўскага гранта настаўніка сярэдняй школы па падпраграме падтрымкі найбольш каштоўных дасягненняў выкладчыкаў у сярэдніх школах".

А пачалося ўсё з таго, што члены камісіі Міжнароднай Сорасаўскай праграмы ў галіне дакладных навук распаўсюдзілі сярод мінскіх студэнтаў анкету, каб вызначыць лепшых беларускіх матэматыкаў, фізікаў, хімікаў, што працуюць у сярэдніх школах. Выбралі прозвішчы настаўнікаў, якія часцей за іншых называліся студэнтамі. Лепшым з лепшых накіравалі запрашэнні прыехаць у сталіцу. У лік іх трапілі Ларыса Сямёнаўна Давыдовіч і яе сястра Тамара Сямёнаўна Яфімчык — выкладчыкі матэматыкі СШ № 8 і гімназіі.

Выхаванцы гэтых настаўніц даволі часта выходзілі пераможцамі гарадскіх школьных алімпіяд, многія з іх закончылі ці вучацца ў вышэйшых, сярэдніх навучальных установах, паглыбляюць свае веды ў галіне дакладных навук. У сясцёр — вялікі педагагічны стаж, працуюць яны творча, самааддана. І сапраўды — па прызванню. Любоў да матэматыкі атрымалі яны ў спадчыну ад бацькі С.І.Бураўцава. Ён выкладаў матэматыку ў невялікай вёсцы на Гомельшчыне, славіўся сваімі здольнасцямі, меў вялікі аўтарытэт сярод калег.

Сямейная матэматычная эстафета перадаецца далей. Напрыклад, сын Ларысы Сямёнаўны вучыцца ў дзяржаўным універсітэце на факультэце прыкладной матэматыкі, дачка — там жа, на механіка-матэматычным.

## БЯЗВОДНЫЯ ПАКУТЫ

У Салігорску вызначаны пэўныя гадзіны раніцай, у абед і ўвечары, калі вада будзе гарантавана падавацца ў дамы.

Выклікана гэта тым, што магутнасці водазабора "Бялевічы", адкуль сілкуецца горад, у два разы меншыя, чым патрабуецца салігорцам. Штодзённых 32 тысяч тон вады дастаткова, каб больш-менш забяспечыць ёю ніжэйшыя паверхі дамоў. Жыхары вышэйшых, як правіла, застаюцца на сухім пайку. Таму і вырашана пэўны час накопліваць ваду, каб потым, хоць і ненадоўга, забяспечыць ёю увесь стотысячны горад.

Увогуле, пры больш эканомным расходаванні вады і пры такіх яе запасах гэтыя непапулярныя меры і не спатрэбіліся б. На водаправодах, якія сілкуюць шаснаццаць дамоў, паставілі прыборы для ўліку. І высветлілася, што ў сярэднім на кожнага жыхара ў суткі пастаўляецца каля дзесяці вёдзер вады. Хапіла б усім, калі б яе без патрэбы не пераліваў ў каналізацыю, шчодра не ліў б на аўтамашыны, агароды...

Тым не менш, стаіць задача давесці магутнасці водазабора да 80 тысяч тон у суткі. У наваколлі горада такія запасы вады ёсць. Не хапае "дробязі" — соцень мільёнаў рублёў, каб пракласці 15 кіламетраў другой ніткі водаправода. Гарадскія ўлады звяртаюцца за дапамогай у Адміністрацыю Прэзідэнта рэспублікі. Ды наўрад ці і рэспубліканскія ўлады "размочаць" вострую салігорскую праблему.

## ЗАГУБІЛІ ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ

Вясной у салігорскіх лясах і на балотах палявалі дзве групы з Італіі. Нягледзячы на ўсе нашы праблемы, замежным гасцям спадабаліся тутэйшыя мясціны, няхай і недагледжаныя, але ж і не моцна "прычасаныя" цывілізацыяй. Сем паляўнічых прыехалі са сваімі стрэльбамі на Салігоршчыну пасля адкрыцця летне-асенняга сезона. Значыць, загубілі мы яшчэ не ўсё...

Італьянцы палявалі на вадаплаўную і лясную птушку. Вядома, не бясплатна. Долары, якімі яны плацілі за паляванне і асобна — за кожны здабыты трафей, пойдуць на развіццё паляўнічай гаспадаркі. Ліцэнзіі іншаземцам выдае рэспубліканскае аб"яднанне паляўнічых.

## НУ І «БРАТЫ»...

У Салігорску ўсё больш становіцца сабак і кошак. Адных гараджане заводзяць для аховы сваіх кватэр, другіх — каб мець хоць нешта жывое побач у цяжкія гадзіны адзіноцтва.

Адначасова дабаўляецца клопату і спецыяльнай брыгадзе вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі "Комплекс", якая адлоўлівае бяздомных сабак, катоў. З пачатку года ўжо адлоўлена больш як паўтысячы „мурак" і восем дзесяткаў „шарыкаў." Хтосьці ўзяў у кватэру сабаку, кошку, потым сутыкнуўся з цяжкасцямі ці проста расчараваўся ў новым жыцці. І выкінуў небараку на вуліцу...

Але ж "браты нашы меншыя" — гэта частка жывёльнага свету, за які таксама нясе адказнасць чалавек. Думаецца, у горадзе патрэбна стварыць таварыства абароны жывёлін. Каб праз яго прапагандаваць элементарныя звесткі аб тых жа сабаках, катах, выхоўваць у людзей любоў да ўсяго жывога.

*(Наш кар.).*

## ЗУБРОЎКА, ТАРХУН, КІСЕЛЬ

Работа на крухмальным заводзе сезонная. А чым заняцца людзям, калі запасы бульбы скончыліся?

У Любані паспрабавалі на базе сваёй сыравіны вырабляць пладова-ягадны кісель. Выпусцілі 20 тон. Добра — ёсць збыт, ёсць і прыбытак. Стварылі брыгаду па вырошчванню духмяных траў. Паўтара дзесятка жанчын на пяцігектарнай плошчы сеюць, убіраюць зуброўку, тархун. І адпраўляюць травы на спіртзавод, дзе на іх настойваюцца віно, гарэлка. З пачатку года рэалізавана каля пяці тон гэтай прадукцыі. Здаецца, траўка, а завод ад яе атрымаў 50 мільёнаў рублёў чыстага прыбытку. Добры даход дае і заводскі магазін, які дзейнічае ў райцэнтры.

А дзе дбаюць, там і даходы маюць. Сярэдні заработак на крухмальным заводзе — адзін з вышэйшых у раёне. Калі юнак ідзе ў армію, яму дадаткова выплачваецца пяць мінімальных зарплат, а тым, хто жэніцца ці замуж выходзіць, — шэсць. Вялікія даплаты атрымліваюць і ветэраны вытворчасці.

*/Наш кар./.*



**Окно ГАИ**

## С МЕСТА ПРОИСШЕСТВИЯ СКРЫЛСЯ

Обстановка на дорогах области складывается тревожная. С наступлением осеннего сезона в значительной мере возросло количество автонаездов. Так, по состоянию на 25 сентября из 124 зарегистрированных аварий фактически каждая третья — наезд транспорта на пешеходов, велосипедистов, стоящие автомобили и мотоциклы. Такие происшествия — результат грубого нарушения установленных правил участниками дорожного движения, которых не пугают ни высокие штрафы, ни реальная угроза стать виновником несчастья или жертвой личной безответственности.

15 сентября на автодороге Валевачи—Озерный Червенского района минчанин С.Шаплыко, управляя автомашиной ГАЗ-24, сбил пешехода, который по дороге в больницу скончался. Водитель не смог трезво оценить ситуацию и не оказал пострадавшему первую медицинскую помощь. Заглушив голос совести и человеческого сострадания, он поспешил скрыться с места ДТП, однако своевременно принятыми мерами розыска был установлен и задержан.

А спустя сутки в том же Червенском районе — вновь "ЧП". На 29-м километре шоссе Минск—Чериков у дер.Корзуны под колесами "Жигулей" погиб 27-летний житель г.Борисова П.Лях. Как установлено, пешеход неожиданно выбежал на проезжую часть перед близко идущим автомобилем, и водитель не имел технической возможности предотвратить трагедию.

На состояние аварийности в сентябре значительно повлиял и такой фактор, как беспечность водителей, которые в силу различных причин с трудом приспосабливаются к резкому изменению погоды. Чаще всего многие из них забывают одно простое и разумное правило: скорость движения необходимо выбирать не только в соответствии с установленными знаками ограничения, но и с учетом дорожных, метеорологических условий, видимости проезжей части. Последствия игнорирования данной нормы предугадать, полагаю, несложно.

21 сентября 30-летний минчанин М.Зелинковский, следуя на "Опеле" по автодороге Минск—аэропорт "Минск-2" в темное время суток и в условиях сильного дождя, наехал на упавшую на проезжую часть металлическую опору с дорожными знаками. Если бы водитель "иномарки" проявил максимум осторожности, то он и двое его пассажиров не оказались бы в тот день с травмами на больничной койке.

На мокрой автодороге Минск—Брест 23 сентября водитель рефрижератора Д.Добреев применил резкое торможение у поворота на мотель "Минский", в результате чего "Фиат-Ивеко" занесло и опрокинуло. Автомашине были причинены значительные механические повреждения, а водитель, к счастью, отправлен на излечение лишь с рваной раной локтевого сустава.

Не ожидал рабочий производственного объединения "Минскжелезобетон" М.Комлач, что для него утро 24 сентября станет несчастливым. Управляя автомобилем ВАЗ-21063 в условиях тумана и ограничения видимости, на 6-м километре дороги Минск—Н.Двор—Гатово он столкнулся с идущим впереди "Икарусом". Водитель и пассажир легковушки травмированы.

Нынче стало популярным интересоваться у астрологов тем, что ожидает человека в ближайшие день, неделю. Думаю, водителям для этого достаточно ответить только на один простой вопрос: ежедневно ли он выполняет правила дорожного движения?..

*Сергей ШОСТАК, сотрудник ГАИ УВД облисполкома.*

**ОТ РЕДАКЦИИ. Когда материал был подготовлен к печати, нам сообщили, что отдел ГАИ УВД облисполкома переезжает в новое здание по адресу: 220079, г.Минск, ул.Кальварийская, 29. Телефоны дежурной части: 544-244, 591-444.**

**Сотрудники областной автоинспекции также просили довести до сведения граждан, что 8 октября прием по всем вопросам, в том числе и регистрационно-экзаменационной деятельности, осуществляться не будет.**

**Кстати, в связи с отменой приема экзаменов для получения водительских удостоверений после экспресс-подготовки, в целях организованного завершения этой работы, сокращения делопроизводства экзаменационных комиссий и упорядочения их деятельности начальник ГАИ УВД облисполкома принял решение прием экзаменов у претендентов на получение водительских удостоверений, зарегистрированных в госавтоинспекции до 1 августа текущего года, закончить до 31 декабря. Прием экзаменов будет проводиться с 9 до 13 часов 14 октября, 11 ноября, 9 и 30 декабря 1994 года.**

Да вас ідзе рэпарцёр

# Танежыцкія "тварожніцы",
## ці што і пачым прадаюць на слуцкім базары

**Нядзельны базар у Слуцку — не Сарочынскі кірмаш. Але - нешта вельмі падобнае. Не столькі па шматлюддзю, колькі па багаццю дароў восені. Такога ўзлёту дзелавітасці, не паказной — рынкавай актыўнасці базар даўно не ведаў.**

Уражваюць малочныя павільёны — доўгія рады сталоў пад "казыркамі". На іх — вёдры тварагу, смятаны, горкі хатніх сыроў, "галоўкі" сметанковага масла, загорнутыя ў чысценькія белыя анучкі ці капуснае лісце, трохлітровыя слоікі малака. Па тварах, адзенню відаць, што прадаўцы — вясковыя жанчыны. І цэны ў іх не "кусаюцца", калі параўноўваць з дзяржаўнымі. Кілаграм масла можна купіць за 3.200, а патаргаваўшыся, нават "зайчыкаў" на 200 танней. Смятана ідзе па 1.800 "вушасцікаў" за кілаграм, тварог — па 1.100—1.200, клінок дамашняга сыру сярэдняга памеру — па 1.200. Ну а як жа якасць прадукцыі?

Спыняюся ля дзвюх маладзіц, якія прадаюць тварог. Адна — з эмаліраванага вядра, другая — з поліэтыленавага мяшка. Абедзве з вёскі Танежыцы, што за дваццаць кіламетраў ад горада. Аўтобусам прыехалі. Добразычлівыя, акуратныя. Тварог у іх свежы, мяккі, на смак — растае, як кажуць, у роце. Без той звыклай магазіннай кісляціны, што характэрна для прадукцыі Слуцкага сыраробнага камбіната. Ды і цана ў жанчын ніжэй — аддаюць за 1.100 "зайцоў". "Бярыце, а то з вядра ўжо кілаграмы з тры засталося. Купляюць людзі, ніхто ганьбы не дасць", — гаворыць адна з жанчын. Бяру кілаграм. Дарэчы, потым і сапраўды не пашкадаваў: нават праз пяць дзён тварог быў нібы толькі з мяшэчка-клінка. Таму случчане цяпер кіруюць на базар не толькі ў нядзелю, а і сярод тыдня, бо тварог, масла, смятана там — не раўня магазінным.

А я крочу далей па вузкім калідоры паміж павільёнамі і не перастаю захапляцца багаццем сельскагаспадарчай прадукцыі, вырашчанай на сядзібах вяскоўцаў. Яблыкаў сёлета менш, чым летась: год няўдалы, засуха падкасіла сады, але за пяцьсот рублёў можна купіць кілаграм антонаўкі ці апорту, а за тысячу — і лепшых. За вядро сліў просяць восем тысяч "зайчыкаў", памідоры ідуць (прывезлі з Малдовы) па 600—800, што на чатырыста танней, чым у магазіне. Жанчына з Клецка прадае тры скрынкі сліў — па кулаку, з блакітным адценнем, духмяныя. Па 1.300 "зайцоў" кілаграм. І бяруць людзі — ажно чарга выстраілася. Бо ў магазіне такіх не ўбачыш. Яек шмат, цана — 1.200 за дзесятак. Буйныя, адборныя.

Цесна было ў гэты дзень і ў двух павільёнах закрытага тыпу, дзе гандлююць салам і мясам. Налічыў ажно 45 вагаў. Свініна — на заглядзенне: мусіць, раніцой асвежаваная. За кілаграм просяць хто 5, а хто і 5 з паловай тысяч. Попыт не надта дружны, усё ж не кожнаму па кішэні такая цана. Але мала хто з прадаўцоў вязе тавар дамоў. Дарэчы, для бяднейшых пакупнікоў адкрыў свой ларок па продажу свініны прыгарадны калгас імя Дзяржынскага. Мяса тут не мае надта прывабнага таварнага выгляду, але і цана яму 4.400 "зайчыкаў".

Выходжу з ларка і тут жа трапляю на кучкі баравікоў, выкладзеных на чыстай анучцы. Штук па шэсць-сем, з крамянымі шапкамі, на тоўстых ножках. Мужчына сярэдніх гадоў просіць за кучку паўтары тысячы "зайцоў". А побач з ім жанчына з цэлым вядром баравікоў. Цікаўлюся цаной. "За 25 тысяч аддам", — адказвае яна. І дадае: "Адно вядро за 35 тысяч ужо прадала".

Базар без бульбы — не базар. Цэлыя рады вёдзер, мяхоў, скрынак. Ёсць драбнаватая, ідзе па трыста "зайцоў" за кілаграм, ёсць клубні па кулаку — там цана вышэйшая. За вядро сумесі ячменю з пшаніцай дзядзька просіць усяго паўтары тысячы "вушастых". Калгас яму прадаў па больш нізкай цане. Чаму б і не падзарабіць? Ды і на сотках многія вяскоўцы вырошчваюць збожжавыя. Вось і адкрыўся на базары хлебны рад.

Накіроўваюся да выхаду. Абапал праходу, запоўненага людзьмі, стаяць і сядзяць мужчыны пенсіённага ўзросту з таварам, які і сёння знаходзіць пакупнікоў. Кошыкі з лазы і дроту, карзіны, граблі і іншы сялянскі рыштунак, такі патрэбны на падворку. А вунь у рад стаяць вырабы вопытных сталяроў-умельцаў: дзежачкі, маслабойкі, кублы, даёнкі, ночвы. Гараджане глядзяць на ўсё гэта як на экзотыку, вяскоўцы падыходзяць, прыцэньваюцца, купляюць. Кожнаму — сваё.

А завяршаецца мая экскурсія па базары знаёмствам з прадаўцамі бананаў. Чалавек трыццаць стаяць ля скрынак с заморскім далікатэсам. Дзяўчаты, хлопцы. Цана стандартная — 2.600—2.700 "зайцоў" за кілаграм. Пакупнікоў няшмат. Нявыгадна купляць бананы, калі за тыя ж грошы можна ўзяць пяцьшэсць кілаграмаў сакавітых адборных яблыкаў. Прыкмячаю знаёмую немаладую жанчыну, якая даўно гандлюе бананамі. Цікаўлюся, ці выгадна ёй стаяць тут пад сонцам і дажджом. Адказвае, што не надта: камерцыйная фірма плаціць толькі пяць працэнтаў ад выручкі. Але за месяц тысяч шэсцьдзесят "зайчыкаў" набягае. І то хлеб пры сённяшнім узроўні беспрацоўя ў горадзе.

*Міхась ТЫЧЫНА.*

*Меньш года працуе ў Валожыне магазін "Ветэран", а ўжо многія жыхары горада і раёна маюць усе падставы шчыра дзякаваць яго калектыву. У гэтым магазіне пераважным правам на абслугоўванне карыстаюцца ветэраны вайны і працы, інваліды, ліквідатары-чарнобыльцы, мнагадзетныя бацькі. Ветліва, хутка абслугоўваюць прадаўцы з "Ветэрана", яны клапоцяцца аб тым, каб на прылаўках быў выбар танных прадуктаў, каб хораша і ўтульна было кожнаму наведвальніку. Наталля ЦЕЛЯЖЭВІЧ — адна з прадаўшчыц.*



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## Адным абзацам

- З мэтай ацаніць цяперашнюю сітуацыю ў кнігавыдавецкай справе быў праведзены ў Міністэрстве культуры і друку Дзень якасці. Такія мерапрыемствы ў былыя часы арганізоўваліся рэгулярна, але паступова ўсё звялося да публічнай дэманстрацыі лепшых выданняў. І дарэмна. На гэты раз былі адабраны каля паўтары сотні як узорных, так і выпушчаных з рознымі парушэннямі кніг. Апошнія сталі экспанатамі стэнда бракаробаў.
- 10 кастрычніка кошт праезду пасажыраў чыгуначным транспартам мясцовых зносін павялічыцца ў 2,5 раза. Павышэнне тарыфаў тлумачыцца змяненнем цэн на паліўна-энергетычныя і матэрыяльныя рэсурсы.
- У Мінску зарэгістраваны дабрачынны грамадскі фонд "Маці божая Фацімская", які аб'яднаў энтузіястаў пераважна каталіцкага веравызнання, заклапочаных праблемамі сям'і і мацярынства ў Беларусі. Асноўная мэта фонду — дабрачынная дзейнасць па адраджэнню хрысціянскіх традыцый: праведнасці, міласэрнасці, любові да бліжняга.
- На базе Акадэміі навук Беларусі адбылася сёмая рэспубліканская заалагічная канферэнцыя "Праблемы вывучэння, захавання і выкарыстання біялагічнай разнастайнасці жывёльнага свету Беларусі". У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел дэлегаты з розных гарадоў рэспублікі, а таксама з блізкага і далёкага замежжа, якія прадстаўлялі навукова-даследчыя ўстановы.
- Па ініцыятыве Міністэрства культуры і друку ў Мінску праведзена сустрэча з кіраўнікамі нацыянальных культурных аб'яднанняў Беларусі. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі дзевяці аб'яднанняў нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у рэспубліцы. Па выніках сустрэчы дасягнута дагаворанасць аб стварэнні рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур, мэтай якога стане асветніцкая работа: актыўнае супрацоўніцтва з ужо існуючымі структурамі, выдавецкая дзейнасць.

Прайсцi мiма?

# БАГАТЫ БЕДНАГА РАЗУМЕЕ НЕ ЗАЎСЁДЫ,
## таму фонд для малазабяспечаных Старадарожчыны папаўняецца марудна

*Мецэнацтва, або спонсарства, як яно цяпер называецца, на зямлі нашай мае глыбокія карані. Можна ўспомніць мноства фактаў, калі фабрыканты, купцы будавалі для бедных дамы, куплялі для іх прадукты, на свае сродкі ўтрымлівалі студэнтаў.*

Ствараючы фонд матэрыяльнай дапамогі малазабяспечаным, кіраўніцтва Старадарожчыны мела на ўвазе і гэтую добрую традыцыю. Прыкідвала так: у раёне 85 прадпрымальнікаў, два дзесяткі малых, сумесных прадпрыемстваў, 13 фермераў, якія, як правіла, жывуць лепш за сярэднестатыстычнага грамадзяніна. І калі кінуць кліч аб дапамозе, то яны абавязкова падзеляцца з малазабяспечанымі. А іх у горадзе і раёне — кожны трэці.

На справе аказалася крышку не так. З больш як сотні недзяржаўных структур на рахунак фонду пэўныя сумы пералі кіраўнік вытворча-камерцыйнай фірмы "Вера" А.П.Шулік, генеральны дырэктар сумеснага прадпрыемства "Белбрыт" Л.І.Даніловіч і яшчэ тры добрыя душы. Астатнія і на вусныя, і на пісьмовыя просьбы не адрэагавалі. У той час як нават кіраўніцтва аб'яднання "Бабруйскдрэў" пераслала ў адрас бедных старадарожцаў тры мільёны рублёў. Дапамаглі і сябры з горада-пабраціма Барадзянка Кіеўскай вобласці, якія па льготных цэнах прадалі для інвалідаў запчасткі да аўтамабіляў "Запарожац", цукар, што быў размеркаваны сярод старых людзей.

Не будзем строгія да тых, хто не адгукнуўся на чужую бяду. Як кажуць, бог ім суддзя. Лепш коратка раскажам пра фонд, які існуе крыху больш года. За гэты час матэрыяльную, грашовую дапамогу ён аказаў больш як паўтысячы чалавек. Дзвюм сотням адзінокіх пенсіянераў завезены дровы ў гатовым выглядзе. Многім з іх дапамаглі ва ўборцы ўраджаю.

Адным словам, не перавяліся ў нас добрыя душы і шчодрыя сэрцы. А калі так, то мы абавязкова выберамся і з сённяшняй крытычнай сітуацыі.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

# ПРАФЕСІЯ? МЕНЕДЖЭР
## Як упісваецца ў рынак фінансава-эканамічны каледж

Зараз мяняецца статус колішняга тэхнікума: у супрацоўніцтве з Беларускім эканамічным універсітэтам створаны фінансава-эканамічны каледж. Навучэнцы атрымаюць паглыбленую агульную і спецыяльную адукацыю, пройдуць адпаведную вытворчую практыку. У параўнанні з існуючымі навучальнымі планамі ў новых на 2.585 павялічваецца агульная колькасць гадзін. Уведзены новыя дысцыпліны: паліталогія, рынак каштоўных папер і біржавая справа, цэнаўтварэнне, банкаўская дзейнасць, асновы псіхалогіі, прадпрымальніцтва, менеджменту, маркетынгу, замежная мова. Навучальныя планы і праграмы складаліся з такім разлікам, каб нашы выпускнікі змаглі вучыцца ў эканамічным універсітэце пачынаючы з трэцяга курса. Мы не прымаем усіх жадаючых агулам, без разбору. Конкурс /як правіла, не менш трох чалавек на адно месца/ выяўляе лепшых. А на завочнае аддзяленне залічваюцца толькі практыкі.

Для пераходу на вучобу па праграме каледжа ў нас былі ўсе магчымасці. Так, маем добрую матэрыяльна-тэхнічную базу. Да паслуг студэнтаў два вучэбныя карпусы і столькі ж інтэрнатаў на 900 месц, бібліятэка, чытальная зала і дзве спартыўныя залы, цір, сталовая на 150 месц. Для навучальных мэт чатыры класы абсталяваны персанальнымі камп"ютэрамі /іх трыццаць два/, выкарыстоўваюцца 382 адзінкі іншых вылічальных машын, 130 тэхнічных сродкаў навучання.

Адказнасць за якасць падрыхтоўкі спецыялістаў павышае комплексны дзяржаўны экзамен па спецыяльнасці ўзамен дзяржаўнага экзамену па асобных прадметах. Да таго ж у штаце — вопытныя педагагічныя кадры. У большасці з іх вялікі стаж практычнай работы. Асобныя павышалі кваліфікацыю ў рэспубліканскім інстытуце прафесійнай адукацыі. У нас працуюць заслужаны эканаміст Рэспублікі Беларусь Валянціна Андрэеўна Язерская, выдатнікі фінансавай работы Ала Сяргееўна Аляшава, Галіна Нікіфараўна Печань, Вольга Лявонцьеўна Румас, Людміла Іванаўна Бракарэнка... Адным словам, нямала выкладчыкаў, выхаванцы якіх добра авалодваюць спецыяльнымі ведамі і затым канкрэтнымі справамі даказваюць, што не дарэмна дзяржава затрачвала грошы на іх вучобу. А гэта не адзін мільён рублёў — у нас звыш 2,5 тысячы студэнтаў.

Чытаць лекцыі па асобных пытаннях сучаснага развіцця рыначнай эканомікі будуць спецыялісты і з шэрагу замежных краін. У прыватнасці, з Чэхіі, Польшчы, Германіі. Група нашых выкладчыкаў сёлета ў жніўні два тыдні вучылася ў Чэхіі. Падобныя кантакты ўстанаўліваюцца і з іншымі краінамі.

Мы набылі значны вопыт па прымяненню актыўных форм і метадаў у навучальна-выхаваўчай рабоце. Арганізуюцца дзелавыя гульні, урокі-дыскусіі, урокі з праблемнымі заданнямі, урокі-семінары. Сфарміравана бібліятэка праграмных сродкаў для персанальных камп"ютэраў. Нярэдка заняткі праводзяцца непасрэдна ў фінансавых і страхавых органах. Тым самым увасабляецца практычная накіраванасць у навучанні, студэнты бліжэй знаёмяцца з будучай прафесіяй.

Комплекс "Фінансава-эканамічны каледж—эканамічны універсітэт" дазваляе павысіць тэарэтычную падрыхтоўку навучэнцаў і іх зацікаўленасць у атрыманні трывалых ведаў, расшырыць кола вывучаемых прадметаў. І што не менш важна — ажыццявіць інтэграцыю і бесперапыннасць сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт зможа ў скарочаныя тэрміны рыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў на базе паглыбленага сярэдняга навучання. Нашы выпускнікі будуць залічвацца на трэці курс універсітэта і займацца ў асобных групах па індывідуальнаму навучальнаму плану.

Ва ўмовах пераходу да рынку ўзрасла роля камерцыйных структур. Значыць, і для іх трэба рыхтаваць кадры. Мы плануем заняцца гэтым, з абавязковай стажыроўкай будучых спецыялістаў па месцы іх работы ў кампаніях.

З сёлетняга года нашы студэнты з"яўляюцца ўжо слухачамі каледжа. Першыя крокі, як заўсёды, нялёгкія. Патрэбен час, каб кожны адчуў, што навучальна-выхаваўчы працэс узняўся на некалькі прыступак. А гэта накладае і на выкладчыкаў, і на слухачоў дадатковыя патрабаванні і адказнасць за вынікі сваёй дзейнасці. Спадзяёмся, што нашы выпускнікі праявяць сябе, як было многія гады, добрымі работнікамі эканамічна-фінансавай службы.

*Іван ЛЯЙКО,*
*намеснік дырэктара Мінскага фінансава-эканамічнага каледжа,*
*Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.*

Надзвычайная сітуацыя

# ЗЯМЛЯ — НЕ БЯЗДОННАЯ БОЧКА

**Інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці ў 1980—1990 гадах, абгрунтаванае навукай і практыкай унясенне арганічных і мінеральных угнаенняў, планамернае вапнаванне садзейнічалі павышэнню ўрадлівасці палёў калгасаў і саўгасаў вобласці. Аб гэтым можна меркаваць, супастаўляючы даныя аграхімічнага абследавання, атрыманыя абласной праектна-пошукавай станцыяй хімізацыі сельскай гаспадаркі менавіта за той перыяд часу.**

Істотныя зрухі былі дасягнуты ў зніжэнні кіслотнасці глеб. У выніку яшчэ і цяпер у васемнаццаці раёнах вобласці з 22 сярэднеўзважаная велічыня РН ворыва знаходзіцца на ўзроўні 5,80—6,11 (па вобласці — 5,89), а блізкія да нейтральных і нейтральныя глебы (чацвёртай і пятай груп) складаюць 77,6 працэнта. Каб было зразумела чытачу, што значаць гэтыя лічбы, заўважым, што з-за высокай кіслотнасці недабор сельскагаспадарчай прадукцыі на глебах першай і другой груп складае 0,54—0,60 тоны, а на глебах трэцяй групы — 0,16 тоны кармавых адзінак з гектара, эфектыўнасць мінеральных угнаенняў зніжаецца на 40—50 працэнтаў.

І што прыкра, — на фоне дадатных паказчыкаў мінулых гадоў цяпер назіраецца спад утрымання пажыўных рэчываў, павышэнне кіслотнасці ў глебе. Яно і зразумела, з-за недахопу фінансавых рэсурсаў за сем месяцаў сёлетняга года правапнавана толькі 34 тысячы з планавых 162,6 тысячы гектараў, што складае 21 працэнт. А за апошнія тры месяцы ў 17 раёнах не правапнавана ніводнага гектара. Улічваючы, што за мінулы і сёлетні гады застануцца неправапнаванымі 103 тысячы гектараў, для падтрымання дасягнутага ўзроўню кіслотнасці глеб у 1995 годзе неабходна будзе правапнаваць не менш як 150 тысяч гектараў. І гэты тэмп неабходна будзе захаваць у наступныя гады, інакш будуць зведзены на нішто ўсе ранейшыя вынікі зніжэння кіслотнасці глеб, а таксама дасягнуты стан іх урадлівасці.

Акрамя паказчыкаў кіслотнасці комплекс аграхімічных уласцівасцей, якімі абумоўліваецца ўраджай і якія адлюстроўваюць стан урадлівасці глебы, вызначаецца ўтрыманнем фосфару, калію і гумусу. Па стану на пачатак сёлетняга года на ворыве калгасаў і саўгасаў вобласці сярэднеўзважаныя велічыні складаюць: 18,4 міліграма фосфару і 19,7 міліграма калію на сто грамаў глебы. Пры гэтым неабходна адзначыць, што з лішкавым утрыманнем калію ў многіх гаспадарках Клецкага, Мінскага, Салігорскага і Смалявіцкага раёнаў налічваецца каля 28—33 працэнтаў плошчаў ворыва. Далейшае ўзбагачэнне каліем такіх глеб не дае прыросту ўраджаю, а вядзе да неапраўданых выдаткаў і забруджвання навакольнага асяроддзя. На ўчастках, якія ўтрымліваюць звыш 30 міліграмаў калію на сто грамаў глебы, рэкамендуецца ў бліжэйшыя два-тры гады гэтае ўгнаенне не ўносіць.

І ўсё ж, нягледзячы на паляпшэнне аграхімічных уласцівасцей глеб у гаспадарках такіх раёнаў, як Крупскі, Лагойскі, Любанскі, Мядзельскі і Старадарожскі, па вобласці дэфіцыт фосфару і калію дастаткова высокі: фосфару — 6,4—10,2 міліграма, калію — 6,8 — 8,1 міліграма на сто грамаў глебы. Асабліва ўскладняецца становішча з напкапленнем пажыўных рэчываў у ворным пласце ў сувязі з памяншэннем унясення арганічных угнаенняў. Так, калі да 1991 года па вобласці ўносілася ў глебу ў сярэднім 18,5 мільёна тон кампостаў у год, што складала 15,5 тоны на гектар ворыва, то ў апошні перыяд унясенне арганічных угнаенняў істотна скарацілася і склала ў 1992 годзе 14,4 тоны на гектар ворыва, у 1993-м — 13,6, а ў 1994-м чакаецца толькі 12,5 тоны.

Недастатковая ўвага надаецца ў гаспадарках прыгатаванню і ўнясенню арганічных угнаенняў у летне-асенні перыяд. І, у прыватнасці, пад азімую сяўбу. Калі ў 1991 годзе з восені было ўнесена 58 працэнтаў арганікі да задання, то ўнясенне пад сяўбу азімых летась склала толькі 31 працэнт. Сёлета на 15 верасня палеткі, на якіх размешчаны азімыя, атрымалі толькі 45 працэнтаў арганічных угнаенняў да патрэбнага, а ў 242 калгасах і саўгасах вобласці пад ураджай наступнага года не ўнесена ніводнай тоны арганікі. Гэта ў асноўным гаспадаркі Валожынскага, Бярэзінскага, Лагойскага, Чэрвеньскага, Пухавіцкага, Уздзенскага і шэрагу іншых раёнаў. Між тым, паводле даных навукова-даследчых устаноў, прыбаўка ўраджаю бульбы пры ўнясенні арганікі ў летне-асенні перыяд складае ад 60 да 80 цэнтнераў з гектара ў параўнанні з вясеннім унясеннем той жа яе колькасці.

Унясенне арганічных угнаенняў самым непасрэдным чынам уплывае на велічыню паказчыка глебавай урадлівасці — утрыманне гумусу, які акумулюе ў сабе 98 працэнтаў глебавага азоту, 60 працэнтаў фосфару і 80 працэнтаў серы. Паводле даных аграхімічнага абследавання, утрыманне гумусу ў ворных пластах вобласці складае 2,38 працэнта, з ваганнямі ад 2,12 працэнта ў Валожынскім да 2,77 працэнта ў Смалявіцкім раёнах. Зніжэнне гумусу па вышэйпамянёнай прычыне (недахоп арганікі) на 0,1 працэнта і больш адзначаецца ў 77 гаспадарках вобласці. Гэта ў асноўным калгасы і саўгасы Крупскага, Лагойскага, Мінскага і Пухавіцкага раёнаў, дзе пры нізкім утрыманні гумусу ў глебах адбылося яшчэ большае яго памяншэнне.

Аналагічнае становішча назіраецца ў гаспадарках вобласці і з унясеннем мінеральных угнаенняў. Так, да ўзроўню 1990 года за апошнія тры гады яно зменшылася на 37 працэнтаў. У тым ліку азоту — на 35, калію — на 20 працэнтаў. Зніжэнне ўнясення фосфару дасягнула 55 працэнтаў. А сёлета па стану на 1 верасня ў Барысаўскім, Вілейскім, Валожынскім, Капыльскім, Крупскім, Мінскім, Пухавіцкім раёнах налічвалася па 15—18 гаспадарак, якія не мелі фосфарных угнаенняў. У цэлым па вобласці на пачатак верасня гэтае ўгнаенне адсутнічала ў 253 гаспадарках, а ў 136 калгасах і саўгасах не было калійных.

Усё гэта ў канчатковым выніку прывяло да таго, што ў групе раёнаў, дзе праводзілася аграхімічнае абследаванне ў 1992—1993 гадах (Вілейскі, Валожынскі, Клецкі, Любанскі, Нясвіжскі, Смалявіцкі, Уздзенскі, Чэрвеньскі), колькасць гаспадарак, якія мінусуюць па ўтрыманню сярэднеўзважаных велічынь асноўных элементаў раслін, павялічылася. Па калію — да 37 гаспадарак супраць 11, па гумусу — да 74 супраць 43 у параўнанні з папярэднім турам абследавання.

У цэлым жа па вобласці на 1 студзеня сёлетняга года зніжэнне сярэднеўзважаных велічынь па калію адзначалася ў 137 гаспадарках, па фосфару — у 81, па гумусу — у 200 калгасах і саўгасах. Варта падкрэсліць, што пры строгім захаванні тэхналогіі вырошчвання сельскагаспадарчых культур, унясенні навукова абгрунтаваных доз арганічных і мінеральных угнаенняў нават у сёлетнім, экстрэмальным годзе можна было дабіцца поспеху. Так, у калгасе "Дуброва" Маладзечанскага раёна пры ўнясенні 60 кілаграмаў на гектар азоту, столькі ж — фосфару, 90 кілаграмаў калію і запраўцы 60 тон на гектар арганікі, па выніках доследаў абласной праектна-пошукавай станцыі хімізацыі, ячмень сорту "бярэзінскі" даў па 52 цэнтнеры зерня з гектара, у той час як на кантролі (без унясення ўгнаенняў) ураджай склаў толькі 24,7 цэнтнера. Аналагічныя вынікі атрыманы сёлета і ў калгасе "Свіслач" Пухавіцкага раёна.

Такім чынам, аналіз вынікаў апошняга тура аграхімічнага абследавання сведчыць, што намецілася тэндэнцыя да зніжэння ўрадлівасці глеб калгасаў і саўгасаў вобласці. Значыць, пры пастаянным змяншэнні ўнясення арганічных і мінеральных угнаенняў як ніколі важным становіцца дыферэнцыраваны падыход да выкарыстання сродкаў хімізацыі з улікам ужо дасягнутага ўзроўню ўрадлівасці на кожным полі. Трэба так весці справу, каб не дапусціць неабгрунтаванага павелічэння ўтрымання асобных элементаў сілкавання на адных палях за кошт збяднення імі іншых. Пры гэтым нельга забываць, што калі мы хочам не дапусціць рэзкага падзення ўрадлівасці грамадскіх палеткаў, трэба строга кіравацца данымі абследаванняў глебы. Бо іншага выхаду няма.

*Мікалай ЛОБАНЬ,*
*дырэктар абласной станцыі хімізацыі сельскай гаспадаркі,*
*кандыдат сельскагаспадарчых навук.*

Из зала суда

# СИДЕЛИ ТРИ БРАТА НА СКАМЬЕ... ПОЗОРА

**Мы уповаем на его величество случай, совершенно забывая о том, что цепь наших ошибок, просчетов, оправданных, обеленных в нашем сознании и возведенных в ранг вседозволенности, порождает не случайность, а закономерность происходящего с нами.**

**Есть расхожая фраза: прожил жизнь по совести. Значит, сумел уберечь себя от дурных поступков, помыслов. И другая закономерность: идя на поводу у необузданных желаний, не умея вовремя сказать себе "нет", человек попадает на линию огня.**

Что-то подобное произошло с братьями Юрием, Николаем и Андреем Севериновыми, которые работали на Радошковичском заводе художественных изделий. Простые деревенские парни, звезд с неба не хватали, но прочно стояли на земле. Таких в деревне уважают. Может быть, не столько за природную смекалку, трудолюбие, сколько за силу. Которая однажды показала волчий оскал. Да неужто столько животного в нас, что вырвавшийся наружу инстинкт уже нельзя остановить? И братья, сидящие в клетке на скамье подсудимых, согласно кивают головами: можно было, только вот незадача — было уже поздно, жертва была мертва.

Августовским вечером, тихим и теплым, три брата встретились. Причина была весомая: из армии возвратился брат Николай. По этому поводу выпили. Потом потянуло на подвиги. Старшой, женатик, предложил "дело", нехитрое, безопасное, тут, по его словам, ума особого не надо. Оказывается, в деревне Рогова Минского района стоит бесхозная школа. Растягивают ее в разные стороны, воруют втихую, а взятки гладки. "Так почему бы и нам руку не приложить?" — бросил клич старший брат. Единодушное "одобрямс" было ответом. Раздобывается машина хозяйства, за руль садится несовершеннолетний, и все бездумно мчатся навстречу беде.

Так уж испокон веков повелось в деревне: воруют всё, что плохо лежит. (Помните, как в песне: все вокруг колхозное, все вокруг мое...). Не от сытости это, а от нищеты. Сосед крадет у соседа. Любят в деревне похваляться "подвигами". А вот стать на пути воровства никто не решается. Своих не выдают.

К чему это я? В ту августовскую ночь три брата повстречали силу, которая не укладывалась в примитивную раскладку. Человек решил воспрепятствовать воровству.

Когда затрещали оконные рамы, а именно за ними приехали братья, зять дачника Лося, которому сельсовет поручил присматривать за школой, выбежал в темноту. Не дожидаясь, пока тесть натянет портки, пока на старческих ногах доковыляет до школы. Оклик незнакомца не смутил братьев. Они продолжали спокойно ковырять окна. А когда в очередной раз прозвучало спокойное "прекратить!", прервались на минутку. Чтобы проучить незнакомца... Итог разборки — избитый Таманюк валяется на дороге, а братья спокойно уходят. Но молодой мужчина находит в себе силы подняться и броситься вслед за ворами. И вот тогда звериный оскал молодых "волков" проявляется во всем блеске. Взмах — и Таманюк падает. Потом будут хлопотать врачи, борясь со смертью, но для Таманюка все кончено. В Молодечненской больнице он умирает.

Вот, пожалуй, и все. И только суд, детально перетрясывая прошлое, пытался понять, что стоит за этим словом — убить. Ни в чем не повинного человека, примерного семьянина, законопослушного гражданина. И все никак не мог понять адвокат, почему Таманюк бросился догонять звериную стаю. Ведь, вполне возможно, остался бы жить. Зачем искушать судьбу?

Мы черствеем душой. Проходим равнодушно мимо лежащего на асфальте человека. Не бросаемся на зов о помощи. Не становимся на пути подлеца, преступника. И тщетно взывать: что с вами стало, люди? Все равно не откликнутся, замурованные в собственной скорлупе. Но почему-то во все времена, даже в эпоху глубочайшей смуты, находились те, кто препятствовал злу. И их пример заставлял вздрагивать сердца, пробуждал совесть, оставаясь тоненьким лучиком надежды. На лучшую жизнь, человечность, законопослушание.

Радошковичский завод художественной керамики хлопотал перед судом с просьбой отдать на перевоспитание коллективу Николая и Андрея Севериновых. Дескать, чего не бывает по пьяни, погорячились хлопцы. Мертвого не поднимешь, а живым нужно жить. Но с какой памятью? Заблокированной сознанием случайности происшедшего или терзаемой муками совести?

...Сидели три брата на скамье подсудимых. Смирные ягнята, пригвожденные грузом содеянного. Суд оставил им жизнь, определив строгую меру наказания. Время за колючей проволокой идет медленно, оно словно замедляет ход. Чтобы понять, осмыслить и содрогнуться душой.

*Ирина АНДРЕЕВА.*

